# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 22 (1214) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 3 ЧЭРВЕНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.



*Вакальны калектыў „Дубочкі“ з Дубяжына — I месца ў катэгорыі фальклорнай песні.*

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-79

## Песні жыць вечна!

Не пашанцавала **сёлетняму агляду „Беларуская песня-79“.**

Не, людзі, гэтыя шчырыя прыхільнікі сваёй роднай песні, не падвялі. Яшчэ раз маглі пераканацца ў жывучасці беларускага фальклору. Наперакор усялякім модам, з мора механічнай сучаснай музыкі, якая безупынку атакуе нас з усіх бакоў, беларускае спявачае народнае мастацтва, як праўда, штораз выплывае на паверхню жыцця, каб парадаваць нам і сэрцы,

Тое ж адчуваеш, калі выступае **Ніна Такаюк** з **Мікуліч у Мілейчыцкай гміне** або **Ганна Стахвіюк** з Трасцянкі, што ў Нараўскай гміне. Сапраўдныя народныя таленты. Каб своечасова ўдалося ім прабіцца ў шырокі свет, маглі б заваяваць эстрады вялікіх тэатраў. Іх маладосць, на жаль, прайшла ў змрочны час акупацыі і ў цяжкія першыя пасляваенныя гады, калі ніхто не думаў аб навуцы для таленавітых вясковых дзяцей. Ніна Такаюк 16-гадовай дзяўчынай выйшла замуж. Ганна

і вочы сваёй задуменнасцю над чалавечым лёсам, над яго шчасцем і горам.

Вось шэсць жанчын з Вітава: **Надзя Нічыпарук, Ганна Канарская, Ганна Масальская, Галя Сідарук, Валя Назарук і Вера Дзік.** Каб выступіць на сцэне ў Гайнаўскім доме культуры „Гурнік“, дзе ў суботу 12 мая праходзіў гэты агляд, ды каб заспяваць дзве старынныя беларускія песні, павыцягвалі яны з бабчыных пасажных сундукоў даматканыя спадніцы і ўласнаручна вышываныя кофты. Хвалююцца: і гады ўжо не тыя і ніхто ніколі не вучыў іх майстэрству сцэнічнага спявання. Але ўсё ў іх натуральнае, праўдзівае, чыста народнае — як у сваёй вёсцы на вечарынках, на вяселлі, або ў суседкі на хрысцінах.

Стахвіюк таксама сеяла лён, прала кудзелю і рабіла ўсё іншае, што робяць у вёсцы, а сваю шчырую любоў да прыгожага, сваю глыбокую тугу да лепшага жыцця перадавала словамі роднай сэрцу блізкай песні. З уласцівай гэтай жанчыне бадзёрасцю, жыццярадасна, усёй душой, як тая дзяўчына, гераіня адной з яе песняў, якая крадком сустракалася з казачэнькам пад калінаю, пад малінаю.

Калі гэта магло быць? Ой, даўным-даўно! Гісторыя, заклятая ў песні, ажывае ў вуснах вясковых жанчын і прымушае задумацца над лёсам гэтай зямлі, якая нас корміць, на якой нарадзіліся і жылі нашы дзяды-прадзеды.

*„Машына шые, дзяўчына плача“*, — спяваюць хлопцы з Дубяжына: **Аляксандр Раманюк, Мікалай Раманюк, Ян Томчык і Пятро Ігнацюк.** Спяваюць на поўны голас пра дзяўчыну, пра вясковую жанчыну і пра яе сына, якога хацела яна ажаніць, але не можа, бо яго забіраюць у салдаты. І зноў — калі гэта было: сто ці сто пяцьдзесят гадоў таму назад? Рэкрутчына — гэта найцяжэйшы кашмар нашых продкаў. Здаралася, што ў армію бралі і на 25 гадоў. Гэта раўнялася турэмнаму прыгавору. І ўсё гэта ёсць у песні, у яе словах, у яе сумнай мелодыі, што льецца, быццам шырокаводная рака, а дубяжынскія хлопцы ўмеюць перадаць **гэты хвалюючы настрой.** Нездарма ж конкурсная камісія прызнала ім **першае** месца за фальклорную песню.

Салістам, які заваяваў, першае месца таксама ў катэгорыі народнай песні, аказаўся **Міхал Артысевіч.** Інжынер-чыгуначнік па адукацыі, а спявак і музыкант па прызванню. Жыве ў Кляшчэлях, працуе ў Беластоку, а сустрэць яго можна ў многіх вёсках на Беласточчыне і ў Варшаве. На агляд падрыхтаваў ён дзве песні, запісаныя ў Семяноўцы амаль сто гадоў таму назад даследчыкам беларускай культуры Міхалам Федароўскім. Падабалася асабліва жартоўная *„Цераз садвінаград, цераз Семяноўку...“*

Варшаўскі хор не ўмяшчаўся ў рамках, вызначаных правіламі агляду „Беларуская песня“, але добра, што дапусцілі яго на гайнаўскую сцэну. Быў гэта публічны дэбют варшаўскага калектыву, дэбют, які пераканаў нас, што пры далейшых намаганнях можна стварыць у нашай сталіцы каштоўны ачаг беларускай культуры.

Старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Мікалай Самоцік, адкрываючы агляд

(Працяг на стар. 4)



*Дуэт з бельскага белліцэя — Каміла Высоцкая і Галіна Кавальчук — I месца ў катэгорыі сучаснай песні.*



## У промнях матчынага цяпла



Галена прыехала ў Маліннікі за Сцяпанам. У роднай вёсцы над маляўнічым возерам недалёка ад Ольштына пакінула маці і, як гэта часта здараецца ў дзявочым лёсе, паехала за мужам на Беласточчыну.

Яго бацькі сустрэлі дзяўчыну сардэчна, як сваю, родную, палюбілі. Галена і сярод суседзяў хутка знайшла добрых сяброў. Пачала гаварыць па-маліннíцку, і беларуская мова наштодзень увайшла ў іх хату.

Усё было б добра, каб не адно „але“. Дзесяць гадоў пражылі яны са Сцяпанам, а дзяцей у іх усё не было.

Дзіўнае стварэнне — жанчына. Здавалася б, няма дзяцей, дык няма. Бывае ж і гэтак у людзей. Але не. Галена такога вытрымаць не магла. Яе мацярынскія пачуцці былі мацнейшыя за яе. Зрабілася вельмі нервовай, пачала хварэць, плакаць. Трэба было нешта рабіць. Але што?

Сабраліся ўсёй сям'ёй, разам з бацькамі. Пагаварылі. І вырашылі, што трэба ўзяць на выхаванне маленькае дзіця з дому малога дзіцяці. Запланавалі маленькую міленькую дзяўчынку, прыгожанькую і сімпатычную.

У Беласток паехала Галена з мужам. Прыйшлі ў дом малога дзіцяці. Сядзяць у пачакальні.

І вось у пакой уносяць двухгадовага хлопчыка. Не, не для іх, паказаць толькі. Гэты малы вельмі перажывае сваё сіроцтва, ён хварэе ад недахопу матчынай ласкі. Хлопчык знаходзіцца ў нейкім нервовым шоку: амаль не рэагуе на тое, што дзеецца навокал, абыякавы да ўсяго, зусім не гаворыць, а ад нервовай напружанасці ў дзіцяці на шчочцы і ў розных месцах па целе чырвоныя свярбячыя прышчыкі. Яны вельмі дакучаюць малому, але ніякія мазі ані лякарствы не памагаюць. Апрача ўсяго гэтага, а можа якраз таму, хлопчык вельмі часта прастуджваецца, нядаўна хварэў на запаленне лёгкіх. Вось такому была б патрэбна маці, ой, як патрэбна.

Галена ўглядаецца ў бледны з чырвонай вялізнай плямай тварык хлапчаняці, у яго вялікія сумныя вочы, і сэрца яе моцна сціскаецца. І вось яна ўжо не можа стрымаць плачу, працягвае рукі да малога, бярэ яго і туліць да сябе.

Малы не цягнецца да яе, але і не ўпіраецца, даецца прытуліць, пашкадаваць...

Працяг на стар. 4

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вул. Кілінскага 10, можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове або прысвечаныя беларускай тэматыцы:

**Семяновіч А. А.,** Ад вытокаў да сталасці. Беларуская драматургія 1917 — 1945, 1978, стар. 160, цана 26 зл.

Вельмі каштоўная спроба даць гістарычны агляд беларускай савецкай драматургіі ад часу яе нараджэння да заканчэння другой сусветнай вайны. У кнізе разглядаецца творчасць У. Галубка, Е. Міровіча, Я. Купалы, М. Чарота, Ц. Гартнага, В. Гарбацэвіча, Р. Кобеца, Э. Самуйлёнка, П. Глебкі, В. Вольскага, асаблівая ўвага адводзіцца аналізу драматычных твораў Я. Коласа, Я. Купалы, К. Чорнага і К. Крапівы.

Сто гадоў, сто паэтаў, сто песень, 1978, стар. 240, цана 36 зл.

Выбар па аднаму найбольш характэрнаму і паказальнаму вершу з творчасці ста балгарскіх паэтаў з часоў ад 1878 па 1978 гады ў перакладзе на беларускую мову вядомым мінскім балгарыстам, паэтам і літаратуразнаўцам Нілам Гілевічам.

**Варановіч Адольф,** Высокі падмурак, 1978, стар. 142, цана 9 зл.

Першая кніжка апавяданняў аўтара, які засяроджвае ўвагу на свеце адчуванняў і перажыванняў вясковага хлопца, якому пазней давялося жыць і працаваць у горадзе.

Арыі беларускіх опер, 1978, цана 17 зл.

Каля дзесяці самых папулярных арый з беларускіх опер, між іншым, з „Андрэя Касцені“ М. Аладава; „Алесі“ Я. Цікоцкага; „Машэкі“ Р. Пукста; „У пушчах Палесся“ А. Багатырова; „Кастуся Каліноўскага“ Д. Лукаса і іншых.

**Лученок Игорь,** Мы идём по земле, 1977, цана 26 зл.

Зборнік песень беларускага кампазітара. У ім змешчана 16 твораў на словы беларускіх і рускіх паэтаў. Ёсць у ім „Песня пра Мінск“, „Кася“, „Ты ўспомні пра ўсё“, „Добры вечар, дзяўчыначка“, „Вераніка“ і інш.

Мастацтва сяла Неглюбка, 1976, стар. 80, цана 40 зл.

Арыгінальная манаграфія народнай мастацкай творчасці сялян адной вёскі з Гомельшчыны. Прадстаўлена ў ёй будаўніцтва, упрыгожанні памяшканняў, разьба па дрэву, ткацтва, адзежа, посуд і г.д. Яе аўтар-складальнік М. П. Жабінская, каляровыя і чорна-белыя фотаздымкі В. І. Ждановіча.

Кнігарня ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki“, 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.

**(мг)**

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**180 гадоў назад**

6.6.1799 нар. А. Пушкін, рускі пісьменнік, пачынальнік новай рускай літаратуры. Найб. значны і самы задушэўны твор П. — раман у вершах „Яўген Анегін“.

**35 гадоў назад**

6.6.1944 у Нармандыі высадзіліся саюзнікі. Адна з большых аперацый II сусв. вайны. Саюзныя арміі перапраўляліся цераз Ла-Манш на каля 4000 суднах.


**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE“**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.

Indeks 36911/36671

B.Z.Graf. Zam. 1044. Nakład 7600 egz. S-2




*Улюбёны прафесарам куточак Мінск а — сквер імя Янкі Купалы.*
*Фота Э. Трыгубовіча.*

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

# СКАЛЬПЕЛЬ ПРАФЕСАРА МІШАРАВА

Беларускі хірург Алег Мішараў — герой нашага апавядання — прывёз з Японіі такі сувенір: драўляны чалавечак закрыў рукамі вочы, потым — вушы, затым — рот. „Сакрэт валодання сабою“ — называе ён гэту скульптурку-трохадзінства. Яна стаіць на яго стале і, пэўна, можа што-небудзь сказаць аб сваім гаспадары...

Хірургія — „жорсткая“ прафесія. Хірург, беручы ў рукі скальпель, павінен забыць аб пачуццях — „сентыментах“, у іншым выпадку ён не хірург. А пачуцці, якія, уваходзячы ў аперацыйную, даводзіцца „адганяць“ прафесару Мішараву, не адназначныя. Па-першае, яго пацыенты не проста пацыенты, яны — дзеці. Па-другое, яго аперацыі не проста аперацыі, а — аперацыі на сэрцы. Па-трэцяе... па-трэцяе, боль яму вядомы не толькі з чужых слоў і вачэй: ён, хірург, сам рэгулярна кладзецца „пад нож“, падлечваючы рану, якую нанесла яму вайна...

На самай справе іменна гэтая рана і зрабіла яго лекарам, хірургам. Цяжка паранены ў самым пачатку вайны з нямецкімі фашыстамі малады салдат Савецкай Арміі, ён потым доўгія гады лячыўся, адначасова ж таксама вучыўся ў сваіх збавіцеляў. Пасля вайны закончыў медыцынскі інстытут, а 18 год таму назад яго заняткам стала іменна гэта — аперацыі на дзіцячым сэрцы.

Задамо найважнейшае пытанне: якія вынікі яго аперацый? Адказ будзе такі: дасягненні не стопрацэнтныя (сэрца ёсць сэрцам). Але гэта не адказ, калі не сказаць пра тое, што ён бярэцца за самыя цяжкія аперацыі — кожная з іх, можна сказаць, унікальная. Ёсць да гэтага адказу таксама адно вельмі істотнае дапаўненне. Каб зразумець яго, варта наведаць хоць бы адну з яго лекцый, з якімі ён выступае перад студэнтамі Мінскага медыцынскага інстытута і слухачоў Беларускага інстытута ўдасканальвання лекараў. У часе лекцыі (на якую б тэму яна ні была) на дошцы паяўляюцца выведзеныя яго рукой лікі: працэнт смяротнасці пры тых ці іншых аперацыях. І нават калі гэты працэнт мізэрна малы — Мішараў усё ж засяроджвае на ім увагу: хірург павінен імкнуцца да таго, каб не было і гэтага „нуль, нуль... працэнта“. У гэтым мэта і сэнс яго „жорсткай“ прафесіі.

Калі знаёмішся з прафесарам і яго калегамі, прыходзіш да вываду: праца людзей гэтай „жорсткай“ прафесіі аснавана на гуманізме.

Так, іменна такая атмасфера — чалавечнасці, дабраты, самаахвяравання — пануе тут, у Беларускім рэспубліканскім цэнтры дзіцячай хірургіі, арганізатарам і кіраўніком якога з'яўляецца якраз наш герой.

— Цэнтр, дзе працуе прафесар Мішараў, — сказала пра яго намеснік міністра аховы здароўя Беларусі Люба Марынкевіч, — гэта цэнтр, дзе якасць лячэння вышэй за ўсё і для гэтага выкарыстоўваюцца ўсе магчымыя шляхі.

Гэтыя словы могуць паўтарыць і яго лекары, і няні-сёстры, якія бясконца адданы сваёй нялёгкай працы, натхнёныя самазабыццём свайго кіраўніка.

Між іншым, пра самазабыццё. Прафесар Мішараў лічыць, што ў яго прафесіі надзвычай важная справа — умець цалкам „выключацца“ з работы, „пераключацца“ да іншых заняткаў. І вольны час яго і яго жонкі (таксама прафесара медыцыны) праводзіцца на турысцкіх паездках, збіранні грыбоў у лесе і, зразумела, наведванні оперных і балетных спектакляў. Хоць... хоць і дома яго кабінет цалкам запоўнены медыцынскай літаратурай, якая так дзіўна — на першы погляд — знаходзіцца побач з тамамі твораў Пушкіна, Хемінгуэя... І ці не ў гэтым скрыта адна з „таямніц“ валодання самім сабою, пра якія па-свойму расказвае тая японская статуэтка?

**С. Заяц**

## ХРОНІКА

12 мая ў клубе селяніна ў Нарве адбылася аўтарская сустрэча з Янам Леанчуком. Малады паэт прачытаў некалькі вершаў са сваёй новай кніжкі „Жальнік“, а таксама вершы, падрыхтаваныя да наступных паэтычных зборнікаў „Правінцыянальныя абразкі“ і „Мар'ён“. Пасля азнаямлення з Леанчуковай паэзіяй і плынямі ў сучаснай польскай літаратуры адбылася дыскусія. Маладых удзельнікаў зацікавілі таксама пераклады твораў беларускіх беластоцкіх літаратараў на польскую мову. Як вядома, Ян Леанчук з'яўляецца адначасова таленавітым перакладчыкам на польскую мову шматлікіх ужо твораў маладых пачынаючых паэтаў і празаікаў, якія ў пераважнай колькасці жывуць у Беластоку або на Беласточчыне. Пры нагодзе беластоцкі паэт прыгадаў прозвішчы аўтараў, творы якіх пераклаў або перакладае на польскую мову і тых, з кім супрацоўнічае на перакладчыцкай ніве.

Сустрэча з Я. Леанчуком была вялікай культурнай падзеяй у нараўскім асяроддзі.

**(яц)**




**Чалавечы лёс ● Быццам плюнуць ● Парадны канцэрт ● Певень ● Дзядзька Квас спраўляе юбілей ● Весткі з Любліна, Орлі, Піліпкаў, Сідры, Бельска, Гарадзіска, Васількова, Гайнаўкі, Міхалова, Нарвы, Жыўкова, Трасцянкі, Кляшчэляў ● Мода ● Калі сняцца іголкі ● Старшыня Аглаблёвіч здзіўляецца ● Песня „Warszawa jest smutna bez ciebie“.**

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### З ДАПАМОГАЙ ЭВМ

Надзейным саюзнікам аграномаў Беларусі стала ЭВМ. З яе дапамогай складзены дакладныя, навукова абгрунтаваныя дозы ўнясення ўгнаенняў на веснавой сяўбе для ўсіх калгасаў і саўгасаў. Атрымаўшы загадзя ад гаспадарак даныя аб складзе глебы і забяспечанасці яе спажыўнымі рэчывамі, высяваемых культурах і намечанай ураджайнасці, камп'ютэр рашыў гэтую складаную задачу менш чым за гадзіну замест паўтара-двух месяцаў, якія затрачваў звычайна на гэта самы вопытны тэхнолаг палёў.

У Беларусі электронна-вылічальная тэхніка ўпэўнена „асвойвае“ новыя сельскія прафесіі. Яна дапамагае прагназіраваць ураджаі, складаць рацыёны, весці ўлік.

### КОЛЬКІ Ў АЗЁРАХ ВАДЫ?

Своеасаблівыя пашпарты атрымалі беларускія азёры. Усе графы ў іх запоўнілі супрацоўнікі лабараторыі возеразнаўства Беларускага універсітэта. У пашпартах прыведзены звесткі аб тым, колькі ў азёрах вады, якая максімальная глыбіня іх, чым цікавы жывёльны свет азёр.

Асобны артыкул у пашпарце — прызначэнне вадаёма. Вучоныя выявілі каля ста азёр, багатых кормам, у якіх гідрабіёлагі рэкамендуюць разводзіць рыб каштоўных парод.

### КРЫШТАЛЮ СТАНЕ БОЛЬШ

На шклозаводзе „Нёман“, што на Гродзеншчыне, уведзен у эксплуатацыю буйны цэх па вытворчасці бытавых шкляных і крышталёвых вырабаў — ваз, графінаў, салатніц, фужэраў, бакалаў і іншай прадукцыі. Новы двухпавярховы корпус займае параўнальна невялікую пляцоўку, а вось магутнасць у яго сапраўды волатаўская. Тут змантавана шкловарная печ няспыннага дзеяння, здольная вырабляць за суткі 20 тон шкломасы.

### АДЗІН З СЕМНАЦЦАЦІ

Дзяржаўная камісія прыняла буйнейшы ў Пінскім раёне комплекс па адкорму буйной рагатай жывёлы. Гэтым аб'ектам завершана будаўніцтва саўгаса „Парахонскі“, якое пачалося шэсць гадоў назад. Да гэтага тут былі пабудаваны малочны комплекс, склады і рамонтна-механічныя майстэрні, сярэдняя школа, лазня, фельчарска-акушэрскі пункт, гасцініца, камбінат бытавога абслугоўвання, восем жылых дамоў, гандлёвы цэнтр, пракладзены водаправод, каналізацыя, сеткі ачышчальных збудаванняў.

„Парахонскі“ — адзін з 17 саўгасаў, пабудаваных на меліяраваных землях Беларускага Палесся. Хлебаробы атрымалі ў карыстанне каля 7 тысяч гектараў асушаных і 780 гектараў арашаемых зямель.




**Piątek 1 VI** — 8.50 Film fab. ser. 18.15 Koncert. 19.10 Epopeja filmowa „Wielka Ojczyźniana”. 22.05 Koncert.
**Sobota 2 VI** — 9.25 „Wielka Ojczyźniana” — powt. 13.45 Film fab. 16.00 Film anim. 16.15 W świecie zwierząt. 21.25 Pr. muz.
**Niedziela 3 VI** — 8.05 Koncert. 12.30 Filmy anim. 13.10 Splektakl. 15.20 Cyrk. 17.00 Panorama międzynar. 17.45 Koncert. 18.00 Klub film. 19.00 Film fab. 20.35 Koncert.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота, 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Hallo szpicbródka — pol. 5—6. Joe Valacho — wł.-fr. 7—8. Znaki zodiaku — pol. 9—10.
**Bielsk Podl.** Gwiezdne wojny — USA 4—5. Mistrz rewolweru — USA 6—7. Słońce hien — tun.-hol. 8—9. Bitwa o Midway — USA 10.
**Czeremcha** Rok święty — fr. 5—6. Granica — pol. 9—10.
**Czyże** Piknik pod wiszącą skałą — austr. Dzień mej miłości — czes. 6—10.
**Gródek** Kuzynka Angelika — hiszp. 9—10.
**Hajnówka** Koziorożec jeden — USA 6—8. Sprawa Gorgonowej — pol. 9—10.
**Michałowo** Eliza moje życie — hiszp. 5—6. Nieme kino — USA 7—8. Strach — pol. 9—10.
**Milejczyce** Cień gorącego lata — czes. Mimino — radz. 6—10.
**Narew** Akwarele — pol. Na tropie Wilbago — ang. 6—10.
**Narewka** Spirala — pol. Szpinak czyni cuda — pol. 6—10.
**Nurzec** Nieposkromieni hajducy — węg. 5—6. Dzień szarańczy — USA 6—7. Colargol zdobywca kosmosu — pol. 9—10.
**Orla** Pejzaż horyzontalny — pol. To moja sprawa szefie — czes. 6—10.
**Rajsk** Charle Brown i jego kompania — USA. Długi weekend — hiszp. 6—10.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.

* * *

немагчыма
вярнуцца назад
у думках так
а жыцця
не павернеш туды
дзе калісь бушавала
мы ідзем
усё хутчэй
а за намі дваццаты
а мо мы
даганяем яго
хто то знае
хто нам праўду раскажа
да якое варажбіткі зайсці
жыцця шлях
трудны шлях
то гарою стае
то завілай дарогай
то сцяжынкай так
вузкай
што часам
і не змесціць ўдваіх
а тады
выбіраем
дзве дарогі
каб сысціся
бліжэй ці далей
каб шукаць павароту
да мінулага
гэта міф
чарадзейская казка
каб на старасць
сказаць
гэта тут
сустрэча нашым дарогам
і далей ужо можам
разам пайсці
то не так
гэта проста не так
жыць і блудзіць
і шукаць дарогі
свае
трэба інакш
трэба умець
прачытаць
надпіс на
паказальніку дарог
на якіх
шчасце блукае
дарогах

**Агнія**

* * *

*я п'яная*
*бадзяюся*
*ад*
*берагу*
*да берагу*

*ненармальная*
*дзяўчына*
*п'яная*
*падаю*
*ад*
*зла*
*да зла*
*ап'янелая*
*ад шукання*
*шукаю далей*
*чаго?*

**Ваву**



## ПАКРЫЎДЖАНАМУ

Трагедыя. Кінсў без слоў.
Ў руках скамечана газета.
Дай яму волю — ён гатоў
З торбай пусціць хоць бы паўсвету.

Эх, небарака, не дуры.
Чаго, уласна, табе трэба?
Ў паводцы моднай мішуры
Цана якая вершам зрэбным!

Азмрочыўся (сам грамабой)
Чужым і крыўдным прыгаворам.
І падзяліў людзей, нябось,
На тых, хто добры, і хто вораг.

З дарадчыкамі пачакай,
Не спадзявайся звонку многа.
Ў сябе кіруй душы адчай,
Там твая сіла і падмога.

А калі выйшаў на прасцяг
Ухабістым радком падспудным,
Ты сам строгі тут суддзя
І нераскаяны падсудны.

**Юрка Зубрыцкі**

* * *

*У глыбіні тваіх вачэй зялёных*
*адбітак ёсць маёй трывогі*
*куды у даль яны так гоняць*
*па невядомых мне дарогах*
*ці там ёсць нехта Табе блізкі*
*а мне чужы а мне варожы*
*я бачу незычлівасць бліскаў*
*у зрэнках Тваіх воч прыгожых*
*скажы ты мне, што я мылюся*
*і што злы дух мяне наведаў*
*да ног Тваіх я прытулюся*
*і стану вечным Тваім следам.*

**Алесь Барскі**



## З ЦЫКЛА АБ КАХАННІ

Твая адсутнасць
прывязала мяне
да цябе

ці таксама цябе
да мяне?

* * *

ці адчуваеш удар току
калі датыкаюся да рукі тваёй
ды на секунду
спатыкаюцца нашы позіркі

або бог пакараў цябе
слепатою?

* * *

побач сябе
напалову чужыя
чакаем
хвіліны
адкрывання сэрц

* * *

твой твар
які ноч сцёрла
бледна адступае
ўдаль.

пайшоў бы за табою
але
ўжо нельга
астаецца мне цішыня

сярод вясёлых крыкаў дзяцей
ды рэўнасці ўсмешка
на блізкім твары

а твой твар
знікне зусім
удалечыні

**Іштван Дабі**

## ПАЯЦ З НАВАГОДНЯЙ ЁЛКІ

Паяц з навагодняй ёлкі
цацка на галінцы
агеньчык для смеху

хаваецца
каб зноў паказацца
раз клоўнам а раз мышкай

вавёрцы раскідвае арэшкі
Дзеда Мароза за бараду цягае
маленькай дзяўчынцы выдумвае казкі

плачуць са смеху
і дзеці і дарослыя
калі на іх галовах скакаць пачынае

скача як звар'яцелы
да апошняй кроплі поту
адзеты ў хамелеона тоненькую
шкурку

**Юрка Баена**

* * *

*Снежнае неба*
*дакранаецца да цёплых месцаў мар*
*упаўшыя крылы неасцярожнай птушкі*
*яшчэ жывыя*
*бура прыкідваецца спакоем*
*у гарадскіх снах*
*кашмар шнуроў*
*ужо не раніць цела*
*цела накшталт градабою*
*парэзаўшага другую зелень*
*гэты маршрут сэрца і вачэй*
*так добра знаёмы*
*гэты подых вясны*
*камянее*
*расце*
*да абсалютнай вышыні*
*распяцце на такой вышыні*
*нараджэннем без часу*
*зялёнае лісце купаецца ў хмарах*
*у гарадскіх снах*
*кашмар шнуроў*
*ужо не раніць цела*
*белая гадзіна*
*адрываецца ад белай ночы*
*плыве па жоўтым моры*
*у гарадскіх снах*
*так праўдзівы спектакль*
*без акцёраў і гледачоў*
*жыць у жоўтых марах*
*тут*

**Надзея Артымовіч**



## ТРЫ ПАКАЛЕННІ

Імчаць маланкава гады
І паўстрымаць іх немагчыма.
Быў так нядаўна малады,
А ўжо гадоў шмат за плячыма.

Быццам учора мой сынок
Быў тоўсценькім малым дзіцяткам.
Рабіў нясмелы першы крок
І цешыў вочы бацькі, маткі.

А сёння ўжо дарослы сын
Малою цешыцца дачушкай,
Якой мінуў гадок адзін
І ручкі цягне: „Дзедка, гушкай!"

Шкадуем мы жыцця гадоў,
Што прамінулі ў вокамгненні.
Не малады той, чыя кроў
Плыве ўжо ў трэцім пакаленні.

**Віктар Швед**







## ЮРКА ТРАЧУК

Юрка Трачук нарадзіўся ў 1957 годзе ў Боцьках. Дзяцінства прайшло ў вёсцы Быстрэ гэтай жа гміны. Закончыўшы Агульнаадукацыйны ліцэй імя Т. Касцюшкі ў Бельску Падляшскім, паступіў на рускую філалогію Люблінскага універсітэта. Зараз студэнт трэцяга курса. Піша на беларускай мове.

### ПРАГНАНЫ РЫЦАР

*Разгуляўся вецер*
*Ў сонным маім полі:*
*Уздыхнуў над рэчкай,*
*Застагнаў на волі.*
*Што яму прыснілась?*
*Мо душа крылата?*
*Ці ўбачыў з'яву*
*Ля старэнькай хаты?*
*Усё шуміць ды вее*
*Па усёй прасторы.*
*Ашалеў ён хіба!*
*Будзь праклятым ўчора!*
*Вецер павярнуўся,*
*Глянуў ў мае вочы,*
*Зарыдаў сабачкай,*
*У кусты ускочыў.*
*Жаль мне стала ветру —*
*Маладога брата*
*Шчырых думак сэрца*
*І душы крылатай.*

* * *

Усе мы зялёныя галіны
Аднаго дрэва,
Пень якога
дае нам сокі
Усе мы заблудныя
вандроўнікі,
якія мараць
аб блакіце,
а астаюцца
ў хмарах.
Усе мы зялёныя галіны
Аднаго вечнага дрэва.
З вечна квітнеючымі,
Маладымі бутонамі.

## НАС МІЛЬЁНЫ

Мільён — адзінка, шэсць нулёў. Чагось, вядома, горба. Насып хоць макавых зярнят — а поўнай будзе торба.

Сама ж адзінка без кружкоў будзе, як кій жабрачы. Як крыж на ростані дарог. Як чалавек без сваякоў — адцяты хвост сабачы.

Ізноў нулёвыя кружкі, мярцвячымі вачыма, хоць ты іх рэшатам лічы, хоць прыгаршнямі сып ў мяшкі — будуць пусцей пустога. Колькі б тым ямам не чарнець — не ўбачыць ім жывога.

Нулямі засяліць зямлю — насыпаць ветру ў дзежку. Таму адзінкі ды нулі бываюць ўперамешку.

Адна адзінка, шэсць нулёў — мільён ўжо стаў сцяною. Быццам бясконцы рад дубоў, поўнае неба жаўрукоў, пралітая за волю кроў, як лівень мацярынскіх слёз, магілы нашых дзецюкоў, загінуўшых вайною.

З адзінак творыцца народ. Яны нулёвы карагод ў шарэнгі ставяць, як салдат. З кружкоў бястварых твораць лік. І кожны лік, як з братам брат, ставяць ў ланцуг сваячы.

Сама ж адзінка без нулёў будзе, як кій жабрачы. Як крыж на ростані дарог. Як чалавек без сваякоў... Адцяты хвост сабачы.

**Ю. Генюш**

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### НАЙАКТЫЎНЕЙШЫЯ

У склад гміны Орля ўваходзяць 23 салэцтвы. Сярод солтысаў да найлепшых залічаюцца: Уладзімір Кавальчук з Крывяціч, Уладзімір Троц з Рэдутаў, Уладзімір Андраюк з Крывой, Ян Вярэмчук з Алекшаў, Мікалай Карнілюк са Спічак і Уладзімір Палавянюк з Міклашоў. Яны былі ініцыятарамі каштоўных грамадскіх пачынаў у сваіх асяроддзях. Канцэнтруюцца яны перш за ўсё на рамонце і пабудове дарог, а таксама пракладцы тратуараў у вёсках. На ўвагу заслугоўваюць: пабудова дарогі са Спічак у Орлю і рамонт дарогі з Міклашоў у Орлю.

### РЭЙД З НАГОДЫ ДНЯ ПЕРАМОГІ

9 мая, з нагоды Дня Перамогі, аддзел ПТТК у Гайнаўцы арганізаваў рэйд праз Белавежскую пушчу чатырма шляхамі. Удзельнічала ў ім 235 асоб. Яны наведалі магілы загінуўшых у апошнюю вайну салдат і паклалі на іх чырвоныя гваздзікі.

На заканчэнне ўсе ўдзельнікі рэйду сустрэліся ля кастра ў Будах. Ім неабходна было падсілкавацца і прасушыць знешнюю вопратку, мокрую ад дажджу. Ва ўсіх аднак настрой быў бадзёры, прыўзняты. Непагадзь была тут не пры чым.

### ПГР У КРЫНКАХ

У Крынкаўскай гміне на канец 1978 года было 1652 га зямельных угоддзяў ПФЗ. У фонд дзяржавы было прынята 229 га (землі тут наогул слабыя). Неабходна было арганізаваць ПГР. Заснаваўся ён ужо пяць гадоў назад. Спачатку меў звыш трох тысяч гектараў з ПФЗ. Поле было занядбанае, рэкультываваць неабходна было каля тысячы гектараў. Рабілі гэта сапраўдным спосабам. Сеялі лубін на зялёнае ўгнаенне. На падрыхтаванай зямлі сеялі збожжавыя культуры і рапс. Ураджаі павышаліся з кожным годам — з 12 да 20 і больш цэнтнераў з 1 гектара.

Цяпер у крынкаўскім ПГР працуе 180 чалавек. Кватэры атрымала 112 сем'яў.

Зараз ПГР гаспадарыць ужо на 6250 га. Каля чатырох тысяч гектараў зямельных угоддзяў абсяваe зерневымі. Сёлета ўпершыню будуць пасеяны буракі і пасаджана бульба. Аднак асноўным напрамкам дзейнасці ПГР у будучыні будзе авечкагадоўля. Калі будуць гатовыя сельскагаспадарчыя будынкі, будзе тут дванаццаць тысяч авечак. З часам плануецца тут таксама гадоўля свіней.

### З ЖЫЦЦЯ КГВ

У Гайнаўскай гміне актыўна дзейнічаюць гурткі вясковых гаспадынь (КГВ). Сярод 28 КГВ (725 членаў) найактыўнейшымі з'яўляюцца гурткі ў Арэшкаве, Дубінах, Махнатым, Пасечніках Вялікіх, Чыжыках і іншых.

У папулярным конкурсе „Больш малака высокай якасці!" удзельнічала 8 калектываў. Адна з удзельніц з Пасечнікаў Вялікіх заняла трэцяе месца ў ваяводскім падсумаванні. У другім конкурсе „Больш фруктаў, агародніны і кветак!" удзельнічала восем КГВ, а конкурсны калектыў з Махнатага заняў трэцяе месца ў ваяводстве і атрымаў 2 тыс. зл. узнагароды. Апрача таго, адна з удзельніц Ніна Салавянюк з Дубін заняла 3 месца ў ваяводстве і ва ўзнагароду атрымала 1 тыс. зл.

Сёлета ў сакавіку закончыліся заняткі на курсе кроя і шыцця ў Махнатым. Удзельнічала ў іх 25 жанчын. Курс карыстаўся вялікім поспехам. Такі курс арганізаваўся і ў Дубінах. У пачатку мая закончыўся курс пячэння пірагоў у Арэшкаве. Апрача таго, тэма рацыянальнага харчавання сям'і зацікавіла жанчын з Катоўкі і Пасталова.

### НОВЫЯ КЛУБЫ „РУХ"

Дырэкцыя Аддзела прадпрыемства РСВ „Прэса-Кніжка-Рух" у Бельску ў канцы мая бягучага года намерана адкрыць клуб „Рух" у Дзянісках — у адрамантаваным будынку, у якім раней знаходзілася школа. Неўзабаве будзе яшчэ адкрыты клуб прэсы і кніжкі ў прыгожым будынку, спецыяльна з гэтай мэтай пабудаваным грамадскай працай у Відаве каля Бельска. Калі закончацца рамонты ў стражацкіх рамізах у Слохах Аннапольскіх і Бацяках Сярэдніх, там прадпрыемства РСВ намерана таксама адкрыць клубы „Рух" (абодва яны знаходзяцца каля Сямяціч).

Цяпер бельскае прадпрыемства „Прэса-Кніжка-Рух" вядзе дзейнасць у 82 клубах. (яц)



(Працяг са стар. 1)

І яна ўжо не ў сілах аддаць яго няні. Няхай ён пабудзе з ёй хоць нейкі час, адагрэецца...

І вось ужо яны ўтраіх едуць дадому. Хутка вёску абляцела навіна, што ў Сцяпана ёсць сын. У той жа ж дзень жанчыны пайшлі ў адведкі, як заведзена ў вёсцы, калі ў кагосьці народзіцца дзіця. Кожны нёс з сабою што меў: хто цукеркі, хто шакаладку, іншы райстопкі ці кафтанік. А нехта, ведаючы, што дзіця ўжо не малюсенькае, прынёс нават скафандар. Цешыліся ўсе за маладую сям'ю. Радасцю поўнілася хата.

Але не прайшло і тыдня, а малы захварэў. Зноў адазвалася запаленне лёгкіх. Перапалоханая Галена, не маючы ніякага вопыту ў доглядзе малых дзяцей, завезла малога ў бальніцу. Хутчэй пад апеку доктара.

Калі на другі дзень паехала наведаць малога, знайшла яго сплаканага амаль да непрытомнасці. Не памагалі ўгаворы, цацкі, цукеркі. Відаць, малому здалося, што ён зноў страціў маці, што зноў астаўся адзін, нікому не патрэбны. Калі хлопчык убачыў Галену, кінуўся да яе, прыціснуўся і не было ніякай сілы, каб яго адцягнуць, пакласці назад у ложак.

Зразумеўшы ўсё, што тут дзеецца, доктар прыпісаў патрэбнае лякарства і адаслаў хлопчыка дадому.

З таго часу мінула паўтара года. Малому Давідзіку ўжо тры з паловай. Міленькі, чысценькі тварык малога ўвесь час усміхаецца. Даўно ўжо зніклі свярбячыя прышчыкі, перастала дакучаць прастуда. Адагрэлася ў пром-




нях матчынага цяпла хлапчаня, расцвіло ад сардэчнай ласкі. Шчабеча і шчабеча, як птушаня ў пагодны дзень, як бы хацела нагаварыцца за ўвесь той час, калі гаварыць не ўмелася і не хацелася. Незнаёмую цётку, што прыйшла пагаварыць з яго маці, запрашае паехаць да бабулі Марты, той, што хатка стаіць над возерам. Давідзік паедзе туды поездам разам з мамай і татам. І цётка можа ехаць з імі, калі хоча, толькі месца пры маме будзе яго, Давідзіка, а цётка можа пасядзець каля таты. Ён дазваляе. Бо незнаёмая цётка зусім нядрэнная, чырвоны алавак дала.

Малы без канца гаворыць і гаворыць, а Галена не зводзіць з яго закаханых вачэй. Апранае яго нават у будні дзень у прыгожыя світрыкі, а цёплыя райстопкі сама на прутках вяжа, каб прыгажэйшыя былі. Давідзік расказвае аб сваіх малінніцкіх дзедку з бабкай, аб бабцы Марце і малюе іх чырвоным алоўкам, а Галена прыцішаным голасам прызнаецца, што і яна з паяўленнем у хаце малога адчувае сябе намнога лепш, спакайней.

Відаць, патрэбны былі адно другому моцна, як сонца, як паветра, каб жыць. І таму цяпер ім так добра, так спакойна і радасна разам.

Хутка ў Давідзіка будзе малодшая сястрычка. У Беластоку паабяцалі Галене падабраць яшчэ дзеўчанятка. Гэта ва ўзнагароду за добрае матчына сэрца, за апеку і клопаты, а таксама за адвагу, якую выказалі, беручы на выхаванне сваё першае дзіця.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара



**Па роднай зямлі.** Не мала пражыла, шмат пабачыла, многіх гасцявала гэтая хата ў вёсцы Богушы каля Саколкі. Фота М. Гайдука.

(Працяг са стар. 1)




„Беларуская песня-79" сказаў, што яшчэ ніколі дагэтуль не было ў ім столькі ўдзельнікаў, як на гэты раз у Гайнаўцы: 14 самадзейных калектываў, 9 салістаў і некалькі дуэтаў. Разам амаль чатыры гадзіны няспыннага спявання. Сапраўднае свята беларускай песні.

Чаму ж аднак не пашанцавала сёлетняму агляду?

А таму, што ў першым тэрміне — у лютым — не мог ён адбыцца, бо дарогі завеяла снегам і калектывы не дабраліся ў Беласток. У перапоўненай зале кінатэатра „Прафсаюзаў" у Беластоку людзі звыш двух гадзін пярпліва чакалі вясковых спевакоў, а ў Гайнаўцы нашы народныя песняры доўга чакалі публікі і ўрэшце спявалі ў пустой зале, спявалі самі для сябе і для сяброў з іншых калектываў. Проста мала хто ў Гайнаўцы ведаў пра тое, што ў доме культуры „Гурнік" можна палюбавацца роднай песняй. Нават аб мікрафоне і радыёўстаноўцы арганізатары не паклапаціліся.

Крыўдна было глядзець на ўсё гэта, і толькі, услухаўшыся ў песні, аддаўшыся поўнасцю іх мелодыі і зместу, можна было забыць аб арганізацыйных непаладках, бо з песняй сапраўды лягчэй і весялей. Яна нас заваявала, яна знайшла пуцявіны ў сэрцы наймаладшых жыхароў Беласточчыны — такіх, як **Каміла Высоцкая** і **Галіна Кавальчук** з Бельска або дзяўчаты-першакласніцы з Гайнаўскага беларускага ліцэя, або сёстры **Зося Кулік** і **Антаніна Назарук** са Старога Корніна. Значыць, наша песня будзе жыць!

**Віктар Рудчык**
**Фота Янкі Целушэцкага**

## М. ШАХОВІЧ
## З НАРОДНЫХ ГАВОРАК

**вэзук** — спалучэнне дзвюх частак цэпа — „біяка" і „цэпільня", але толькі спалучэнне, бо ўжо матэрыял называюць „вжуовка". Поправ вэзук, бо біяк злітае і шчэ в лоб смальнэ. А в моюом ціепі вэзука нэма.

**вуе** — доўгая жалезная частка плуга, закончаная гакам. Я колісь нэ знав ніякіх саночак, за вуе, на плечы і понюос плуг в поле. Нэ скачы, бо пэрэвэрнэш плуг і достанэш вуём по ногах

**засніет** — хвароба пшаніцы (дробны карычневы пылок). Лятось так пшэніцю засніет опановав, што аж страх. Наша пшэніця вся в засніеті. З тым засніетом то чыста біда, вся пшэніця аж рыжа.

**парыніна** — неабсеянае поле, пакінутае на год або два, каб адпачыла. Бач, Іван які кусчыско парыніною покінув. Як там наша парыніна? Вжэ можна будэ нашу парыніну ораті.

**попэрэчнік** — гэта тыя скібы, якія пры заканчэнні воркі пракладаюць упапярок. Шчэ оно попэрэчнікі і кунэць. Нэвжэ ж ты попэрэчніка нэ можэш заораті?

**прут** — таўсцейшы бераг касы, супрацьлеглы да ляза. Трымай косу за прут, як клеплеш. Нэ бі молотком по прутові, бо позагінаеш.

*(Кленікі, гміна Чыжы)*

## УСПАМІНЫ (22)




### СВАТАННЕ

Перад самым юбілеем, у другой палавіне лютага адбыўся цэнтральны агляд конкурсу „Беларуская песня-74". Наша вакальная група і дуэт занялі ў сваіх катэгорыях першыя месцы. Паспяхова выступілі на ваяводскім аглядзе савецкай песні. Наш вакальны калектыў заняў другое месца. Яшчэ крышку, і паехалі б у Зялёную Гуру.

5 мая ўспамінаю з асаблівым пачуццём. Выступалі мы ў Доме старых у Ялоўцы. Колькі прынеслі ім радасці, цяжка выказаць. Рэпертуар падабралі лёгкі, жартоўны. Хацелі развесяліць іх, унесці крыху сонца ў іх маркотнае жыццё. Як яны цешыліся! Як дзякавалі нам! Са слязамі ў вачах праводзілі нас да аўтобуса. Прасілі прыехаць яшчэ. Дзядулі, як праўдзівыя джэнтльмены, памагалі нам сядаць у аўтобус, па сто разоў цалавалі нашы ручкі.

Пасля гэтай сустрэчы задумалася я над сабою. Жыццё ідзе гіганцкімі крокамі. Хутка старасць, недалужнасць, а за ёю...

У маі заўсёды адзначаем Дні культуры, кнігі і друку. У гэтым годзе наш калектыў і мясцовая бібліятэка вырашылі адзначыць іх урачыста. 15 мая святкавалі разам дзень дзеяча культуры. Быў канцэрт і таварыская сустрэча з вясковымі бібліятэкарамі. І было ўсяго на сталах. Была таксама музыка. Гулялі цудоўна. Не хацелася пакідаць залу.

І зноў лета. А летам абмяжоўваемся фэстынамі. Адзін з іх адбыўся на беластоцкіх Плянтах. І запамятаўся па асаблівай прычыне: не было даклада. Проста старшыня беластоцкага гуртка БГКТ Мікалай Гайдук коратка пазнаёміў сабраўшыхся з мэтай урачыстасці, а замест даклада наш калектыў даў уступную частку, у якой паказалі мы перамены, якія адбыліся ў апошнія дзесяцігоддзі на нашай зямлі. Потым быў конкурс „Што ведаем аб Савецкім Саюзе", паказ моды, ну і другая, лёгкая, частка канцэрта.



*У дуэце з Надзяй Парэмбскай на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня-75".*

 

НАША ДЗЕСЯЦІГОДКА

# Школа ці філіяльны пункт?

Цэлыя дзесяцігоддзі ў польскім школьніцтве побач з поўнымі школамі, якія ажыццяўлялі праграму навучання васьмікласнай школы, працавалі няпоўныя школы, што вялі навучанне ў некалькіх наймалодшых класах. Такім чынам працавалі поўныя школы з 4 і 5 настаўнікамі са злучанымі класамі, поўныя школы з 6, 7 і большым лікам настаўнікаў без злучаных класаў, а таксама няпоўныя школы з класамі I — IV, I — V або I — VI з 1, 2 або 3 настаўнікамі. Школы з 7 і большым лікам настаўнікаў як школы з вялікай колькасцю вучняў знаходзіліся перш за ўсё ў вёсках і мястэчках, школы з 6 настаўнікамі — у вялікіх сёлах, а поўныя школы з 4 і 5 настаўнікамі і няпоўныя школы з класамі I — IV, I — V і I — VI — у малых, часцей за ўсё знаходзячыхся ў значнай адлегласці ад вялікіх гаспадарчых і культурных цэнтраў вёсачках.

У школах з 7 і большым лікам настаўнікаў план дыдактычных заняткаў у тыдні складаў 213 урокаў, у школе з 6 настаўнікамі — 196 урокаў, у поўнай школе з 4 настаўнікамі — 129 урокаў, а ў няпоўнай школе з класамі I — IV — усяго 36 урокаў. У поўных школах без злучаных класаў найчасцей працавалі настаўнікі з адпаведнай прафесіянальнай падрыхтоўкай, а ў школах са злучанымі класамі з-за малой колькасці ўрокаў не было магчымасці забяспечыць работай настаўнікаў-спецыялістаў.

Няпоўныя школы, нават тыя маленькія з 1, 2 і 3 настаўнікамі, усё ж былі самастойнымі школьнымі ўстановамі. Іх дырэктары, з'яўляючыся настаўнікамі, былі адначасова загадчыкамі аддадзеных пад іх кіраўніцтва ўстаноў, вялі дакументацыю, афармлялі ўсе адміністрацыйныя справы, таксама як іх сябры, што загадвалі школамі з 7, 15 ці 30 настаўнікамі.

Цяпер у сувязі з пераходам на 10-гадовае навучанне і выхаванне, у выніку ўвядзення зменаў у школьнай сетцы, значная колькасць ранейшых поўных васьмікласных школаў са злучанымі класамі ліквідавана, а ўсе дзейнічаючыя да гэтага часу няпоўныя школы з класамі I — IV, I — V і I — VI ператвораны ў філіяльныя пункты бліжэйшых поўных школаў.

І так, адносна поўных школ амаль цалкам знікла праблема спалучэння класаў у класах IV — VIII, а ў няпоўных школах — праблема існавання самастойных школьных установаў з 1, 2 і 3 настаўнікамі. Такім чынам настаўнікі, якія працуюць у школах з 1, 2, і 3 настаўнікамі, звольнены з шэрагу адміністрацыйна-арганізацыйных абавязкаў і ўсю сваю энергію могуць прысвяціць дыдактычна-выхаваўчай працы з дзецьмі. Пераўтварэнне такіх школ у філіяльныя пункты бліжэйшых поўных школаў апрача гэтага дало магчымасць уключыць настаўнікаў з маленькіх школаў у педагагічныя саветы поўных школаў. Такім чынам яны могуць параўноўваць вынікі свае працы з вынікамі працы калегаў-настаўнікаў з поўнай школы, а гэта вельмі карысна ўздзейнічае на вынікі іх педагагічнай дзейнасці.

У некаторых выпадках ператварэнне няпоўных школаў у філіяльныя пункты дае таксама магчымасць, каб настаўнікі з філіяльных пунктаў працавалі ў поўных школах, а з поўных школаў — у філіяльных пунктах.

Такім чынам ліквідавана важная розніца паміж вясковай і гарадской школамі, і гэтым жа створаны аднолькавыя ўмовы для адукацыі дзяцей з розных асяроддзяў.

Таму, дарагі чытач, калі на школьным пасведчанні свайго дзіцяці прачытаеш, што гэты дакумент не з тае школы, у якой вучацца твой сын ці дачка і каля якой ты штодня праходзіш, але пасведчанне паходзіць з бліжэйшай поўнай школы, тады ты павінен усвядоміць, што гэта якраз і ёсць ажыццяўленне ідэі абнаўлення нашага школьніцтва і дастасавання яго да вымаганняў і патрэбаў нашага сацыялістычнага грамадства.

**др Мікалай Грыгарчук**



**ДРУЖНАЯ СЯМЕЙКА**

Дружная сямейка Жэні і Івана Нікалаюкоў. Самі яшчэ маладыя, падгадавалі шасцёра мілых і добра выхаваных дзяцей. Хоць нялёгка было жыць: гаспадарка невялікая, дзеці малыя, усіх трэба дагледзець — сям'я ў іх шчаслівая. Дзеці вучацца добра, нядрэнна апрануты, у кожнага ёсць і модная куртачка, і добры свэтрык. І ўсе яны, ад малога да вялікага, стараюцца памагчы маме ў працы, як могуць.

**Яніна Чэрнякевіч**

 ФАЛЬКЛОР 

**ВЯСЕЛЬНАЯ**




І з усюль рэчкі цекут,
і з усюль выцекают,
і з усюль госці едут,
і з усюль з'езджают.
Аднае рэчкі німа —
ад быстраго дунаю.
Аднаго госця німа —
самаго найлепшаго,
дзеўчыны бацэнька.
А дзеўчын бацэнько
на ўсход сонечка лежыт,
на ўсход сонечка лежыт,
наўскрозь ручэнькі дзержыт,
наўскрозь ручэнькі дзержыт,
Госпада Бога просіт:
— Ой, пусці мэнэ, Божэ,
і з небяс на пудвор,
там маего дзіцяці
васелечко вітаці.
Я дахаты ні пайду —
пуд акенцом пастаю,
на свае дзіцям подзівлюсь:
чы харошэнько прыбраная,
чы так, як людзі, пасажоная.
Прыбрана, як лебёдка,
а пасажона, як сіротка.

Ад Марыі Янюк, 1908 г. нараджэння, мястэчка Нараўка, запісаў 24 студзеня 1979 года Мікалай Гайдук, мелодыю расшыфравала Людміла Панько.

ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

# ЯК МУЖЫКІ БУНТАВАЛІСЯ

Сяджу я вось ля цёплай печкі, на каленях у мяне тоўстая падшыўка „Газеты Беластоцкай“, пра якую я вам ужо расказваў і чытаю артыкул **„Год 1847 на Беларусі“** Францішка Глінскага.

Усе вёскі, піша Францішак Глінскі, якія знаходзіліся ў прыватным уладанні, зусім апусцелі, а ў некаторых з іх, як для прыкладу, у вёсцы Кухарэва Дрысненскага павету (цяпер Верхнедзвінскі раён у Віцебскай вобласці) сяляне падпалілі свае хаты, да працы ў полі не выходзілі, а была гэта вясна, пачатак мая. Па кузнях рыхтавалі сабе зброю, у карчмах аж гудзела ад гутарак пра тое, што цар даў мужыкам свабоду, толькі памешчыкі затаілі ўсё гэта перад народам.

Адзін свяшчэннік прабаваў спыніць сваіх парафіянаў ад пабегу. Сваю пропаведзь ён распачаў ад слоў: *„Хрыстос на неба падняўся, але нябесныя вароты аставіў для нас адкрытымі“*. Далей гаварыў ён аб божым гневе для тых, хто не паслухае ўлады, якая ж Богам дана, і паноў сваіх... Народ аднак запамятаў толькі тое, што *„нябесныя вароты і для нас адкрыты“*... Пасля, калі жандары бічавалі злоўленых людзей і пыталі, чаму яны ўцякаюць ад памешчыкаў, сяляне адказвалі, што сам бацюшка апавясціў ім у царкве, што „вароты свабоды ўжо адкрыты“.

Непісьменныя мужыкі паўтаралі з руснаў у вусны, ехалі на кірмашы і вестку падавалі далей. Сёе-тое дабаўлялі ад сябе, і так расла тая легенда, што *„вароты свабоды для беднага люду ўжо адкрыты“*. То ж гэта тады ў 1846 годзе **Якуб Шэля** разам са сваімі сялянскімі паўстанцамі граміў галіцыйскую шляхту...

А на Беларусі жыхары паасобных вёсак, калі ўжо рушылі ў дарогу, спалучаліся ў шматлікую грамаду, часам і па тысячы чалавек, разганялі мясцовую паліцыю, праводзілі баявыя сутычкі з войскам і ішлі... ішлі.... шукаць гэту свабоду, хаця і не ведалі дакладна, дзе яе шукаць... Цякла рака, сялянскім горам перапоўненая, зямлі, быццам бы абяцанай, райскай сабе шукаючы. А па дарозе трэба ж было неяк пракарміцца... Ласкі, вядома, у паноў яны не прасілі. Бралі, што трэба было...

15 мая 1847 года тадышні Смаленскі, Віцебскі і Магілёўскі генерал-губернатар выслаў ім на сустрэчу ўзмоцненыя атрады войска. Камандаваў імі асабіста князь Галіцын. Не было сярод нашых сялян еднасці дзеяння, не хапіла ім выдатнага правадыра, такога, як Якуб Шэля на Галіччыне, які аб'яднаў бы гэты стыхійны бунт і накіраваў бы яго ў адно русло. Таму і лавілі салдаты князя Галіцына гэтых сялянскіх уцекачоў, як зайцаў. Адзін раз акружылі і завярнулі з дарогі нейкую тысячу асоб і 130 падвод, іншым разам удалося ім спыніць паход аж 3 600 мужыкоў. Тры роты губернатарскіх грэнадзёраў гнала, як быдла, гэтую чараду сялян. Звыш 6000 мужыкоў прыняло ўдзел у гэтым шэсці да праўды і свабоды.

На тое, каб пракарміць іх на паваротнай дарозе, спатрэбілася дзяржаве аж 10 тысяч рублёў. Столькі далі цэнтральныя ўлады. Можна аднак меркаваць, што значная частка з гэтай сумы асталася ў ліпкіх руках царскіх чыноўнікаў. Бо тыя, што канваіравалі ўцекачоў, абыходзіліся з імі сапраўды, як з быдлам. 600 чалавек прапала недзе без весці, амаль 100 мужыкоў, якія прызналі правадырамі, пайшло пад ваенны суд. Людзі, вярнуўшыся на разбураныя сялібы, мерлі ад голаду і хоХаду. Аднак не перасталі верыць, што недзе далёка чакае іх свабода, што на беразе Чорнага мора цар-бацюшка выдзеліў для іх свабодную ад паншчыны, ураджайную зямлю...

**Максім Нурэцкі**

## Лічбы і факты

Цяпер у Гайнаўцы пражывае 18 тысяч жыхароў. У гэтым горадзе штогод прыбывае па 250 кватэр. Ад 1975 года тут пабудавана 500 аднасямейных дамоў. Гэтае будаўніцтва паспяхова развіваецца.

Сабралася шмат народу. Усе нашы песні вітала бура воплескаў. Аж дрэвы шумелі.

За выключэннем канцэрта ў Ялоўцы, да канца года не было нічога вартага ўвагі. Канцэрт быў платны. Арганізавала яго ГП БГКТ. Ездзілі з намі і нашыя „Ґрудзяне“. Спеў кіраўніка нашага Дома культуры зачараваў моладзь. Гаварылі: „Мабыць, гэта брат Паломскага“. І засмуціліся, што наш аркестр не хоча паіграць на танцах (так добра іграе). У зале было холадна, толькі ў аўтобусе разагрэліся.

Год 1975. Пад канец студзеня навіна: прыязджаюць з Беластока эксперты (паны Веслаў Дамброўскі і Ежы Срудкоўскі). Мэта: кваліфікаванне на першамайскі канцэрт п.з. „Беласточчына“. Гэты экзамен перажылі мы мацней, чым кантакт з гледачамі. Хацелі ўдзельнічаць у гэтым прыгожым мерапрыемстве. Е. Срудкоўскі прасіў нас співаць свабодна. Праспявалі мы шмат розных песняў. Хіба зрабілі добрае ўражанне, бо 20 лютага прыйшло паведамленне аб уключэнні нас у першамайскую праграму.

Грамадскасць Беластока любіць агляды беларускай песні. 9 сакавіка на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня-75“, які праходзіў у канцэртнай зале прарсаюзаў у Беластоку, усе месцы былі заняты. Выканаўцаў было многа, але, характэрнае, песні не паўтараліся. Такое багацце! Песенная скарбніца! Захаплялася камісія, захапляліся гледачы.

Наша вакальная група заняла першае месца, а дуэт, у якім выступіла я з Надзяй Парэмбскай, другое. Не абышліся і без маіх частушак:

Хто з вас, хлопцы, нежанаты?
Ўсім настаў жаніцца час.
Прыязджайце да нас ў сваты,
Шмат дзяўчат харошых ў нас.

Мы, дзяўчаты-гарадчанкі,
Прыгажуні як адна,
Любім працу і гулянкі,
Хлопцаў любім таксама.

— Я танцорка!
— Я спявачка!
— Я люблю хатні уют!
І ніводна несварліва,
Гэта ўсе вам скажуць тут.

Нас не трудна адшукаці,
Нашы дзеўкі з аганьком.
Прыязджайце!... Каля хаты
Тпрр... Вось тут мы і жывём.

Мама, мама, nie te czasy,
Хто цяпер ездзіць у сваты?!
Кожны знойдзе сваё шчасце,
Як пачуццямі багаты.

Калісь хлопцы прадавалі
Сябе за адлогі,
Жанок бралі у дадатак,
Хоць крывыя ногі.

Ой, дачушка, твая праўда,
Што калісьці было так,
Сёння хлопцы толькі нюшаць,
Каб быў „Вартбург“ або „Ф'ят“.

Мой хлапец казаў аднойчы,
Што прынамсі хоча мець
Ў Беластоку „М-3“ ў блёку,
Хай шукае грошы цесць.

Не пайду я ў горад, знайце,
Шанцаў сваіх не згублю.
Люблю свінак гадаваць я,
Каровак даіць люблю.

Бацька скончыў курс ПРу,
Лепшы ў вёсцы гаспадар,
Сыпле 200-220
Ў чыстым складзе на гектар.

Гаспадарыць то не фокус,
А вось сына Бог не даў.
Прымака знайсці — во покус,
І каб добры гаспадар.

Ну і ўсё. Дык калі ласка,
Гарадок не абмінаць.
Хто ахвоты, без апаскі
Просім ў госці прыязджаць.



 

Імпартгумар

## Капрызны малыш

— Немаведама якія цяпер пайшлі дзеці. Усё табе ведаюць. А пытанні якія ставяць? А пра што размаўляюць?! А якія кемлівыя! Вось купілі ўчора нашы маладыя кекс. Ледзь угледзеў Юрасік і як закрычыць: „Хачю кесю! Хачю кесю!“ Далі, вядома. А яно сядзіць за сталом і выкалупвае з кексу разынкі. Не, вы ўяўляеце?! Яму ледзь другі год пайшоў, а ўжо ведае, што якраз і адкуль выкалупваць!

— А нашай Аксаначцы яшчэ толькі годзік споўніўся. А во скажы ёй: „Ану дай, мая ласачка, дай, маё сонейка, тату дульку!“ — адразу ж скруціць! І падасць. І не камусь іншаму, а якраз роднаму бацьку. І не куды-небудзь тыцне, а пад самусенькі нос. І мне, калі добра папросіш, таксама тыцне, і дзядулі, і сваёй матусі. Усіх ведае. Ну, скажыце, Госпадзі, Божа мой, ну, адкуль такая здольнасць у дзіцяці? Дык жа яе яшчэ ніхто не вучыў! А што ж будзе, калі пачне вучыцца?!

— А яшчэ я вам раскажу — і не паверыце! Нашаму Грыцуню толькі што паўтара мінула. А такое ўжо разумнае, такое разумнае, і адкуль яно ўсяго набралася? Сядзіць вось учора, снедае. Я яму кашкі маннай зварыла, як загадала Галя. Кажу, еш, Грыцуня, еш. А яно сядзіць і капрызнічае. Адварочваецца. Я яму: еш, бо гэта, маўляў, карысна, што манная каша — гэта ўлюблёная ежа касманаўтаў. А яно сядзіць сабе ды гігікае. А потым зачэрпвае поўную лыжку кашы, і што б вы падумалі? Шпурляе ў мяне. Ды да таго ж цэліць не куды-небудзь, а просценька ў вочы.

А потым да майго старога прыставала. Толькі што той цераз парог, а яно: „Скажыце, дзеду, а якое ў вас хобі?“ Ці вы чулі калі, люданьki, ці вы чулі, добрыя, такое ад малечы?! Дзіва, ды й годзе!

— Гэй, Мікітаўна, што ваш Грыцуня, што ваш Грыцуня! Во ў нас Пятрук адрэзаў, дык адрэзаў. Вось у мінулы тыдзень Паўлік, гэта сынок мой старшанькі, раюсенька з нявесткаю паснедалі і паехалі ў райцэнтр. Каляровы тэлевізар купляць. А я падрыхтавала малому абед. Баршчу зварыла. Наліла яму місачку, еш, кажу, Пятрук, еш, мая ластаўка. А ён надзьмуў губкі, вытарашчыўся і нават за лыжку не бярэцца. Я зноў: еш, мая бергамотанька (гэта ў нас груша такая смачная-смачная), а яно да мяне:

— Слухай, бабуля, а ведаеш, ты, які сёння дзень?

— Ведаю, — адказваю. — Сёння нядзеля.

— Правільна, — зграджаецца ўнук, нядзеля. А потым дадае: — А мой тата кажа, што ў нядзелю да баршчу мужчыне трэба наліць чарачку.

— Вотакенькі. А яму ж вось чатыры з лішкам гадочкі! І адкуль яно ўсяму гэтаму навучаецца?

**Віктар Бакланаў**









— *Галава сям'і.*

### ЦУДОЎНЫ ЧАС

Настаўнік пытае ў вучня:
— Пятро, калі я кажу: „Я хворы“, — які гэта будзе час?
— Цудоўны час! — адказаў Пятро.

### БЕДНЫ БУСЕЛ

Малы хлопчык да маці:
— Мама, у пані Кавальскай ужо шаснаццатае дзіцятка!
— А як яна сябе адчувае?
— Яна, нічога, добра, але бусел, мабыць ужо ледзь дыхае...

### МІНІБАЙКІ

### ЯЙКІ І КУРЫЦА

У шкарлупінах Кураняты
запішчалі:
„Нам холадна! Не злазь з гнязда,
пагрэй!“
„Не чула я, каб яйкі ды курэй
Дзе-небудзь гэтак павучалі!“
Іх Курыца не захацела слухаць...
І засталася без дзяцей Квактуха.

**Васіль Маеўскі**



— *Ён у мяне, бачыце, непаседа.*

### МІНІВЕРШЫ

### НА БЛАКІТНЫМ ЭКРАНЕ

*Нажы, пісталеты,*
*Кінжалы, кастэты,*
*Ключы і адмычкі...*
*А потым — сутычкі...*
*Гранаты, фугаска...*

*А ўсё — „Тэлеказка*
*Для дзетак-маўлятак*
*З жыцця звяранятак“!*

**Ул. Іваноў**



Ён гаварыў: — Дзеці — гэта яшчэ кветкі жыцця, вось унукі пойдуць!..

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Два прафесары, спецыялісты-атамшчыкі, сядзяць у рэстаране і ажыўлена размаўляюць. Міма іх стала праходзіць маладзенькая прыгожая жанчына. Абодва вучоныя разам змаўкаюць, глядзяць на жанчыну. Нарэшце адзін з іх усклікае:
— Трэба ж, як цікава згрупаваліся атамы!

☆

Чатырохгадовы Бобі гуляў з коцікам перад камінам. Коцік замурлыкаў. Бобі доўга глядзеў на яго, потым схапіў за хвост і адцягнуў ад каміна.
— Што ты робіш? — спытала маці. — Нельга крыўдзіць коціка.
— Я не крыўджу. Я проста адношу яго ад агню; ён ужо закіпеў.

☆

Хлопчык бачыць у магазіне чарапаху.
— Скажыце, фройляйн, колькі яна каштуе?
— Сорак марак.
— А без скрыні?

### ДОМ З БРАГІ

Унук, прыехаўшы ў вёску, заўважыў, што бабуля нешта заварвае.
— Што робіш, бабуля?
— Брагу заварваю.
— Навошта?
— Дом трэба будаваць, унучак.
— Глядзі ты. А ў горадзе дамы з цэглы будуюць!

З „Весніка Задрыпоніі“

### КАРЫСНЫЯ ПАРАДЫ

Калі ў вас з'явіліся цяжкасці ў выхаванні дзяцей, уявіце сабе, што гэта чужыя дзеці: чужых заўсёды лягчэй выхоўваць.

✲

Не адкладвай на заўтра тое, што можна патраціць сёння.



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе Галіны Юзвюк з Барысайкі змяшчаем песню*

## DIABEŁ I RAJ

**z repertuaru Maryli Rodowicz**
**słowa: Agnieszka Osiecka**
**muzyka: Katarzyna Gärtner**

Jeszcze chodzą po świecie dziewczyny
bardzo smutne ze znanej przyczyny,
ale wy się, dziewczyny, nie dajcie,
tylko szczęścia szukajcie, szukajcie...

Dla was diabeł, dla was raj,
patataj, o patataj,
dla was anioł, dla was maj,
patataj, o patataj,
dla was diabeł, dla was raj,
patataj, o patataj, hej,
dla was wszystko naj, naj, naj,
patataj, o patataj,
patataj, patataj, o patataj, patataj!

Jeszcze będzie weselej i mądrzej,
młody księżyc usiądzie na kołdrze,
z nami będą się żenić, nas kochać,
a my piękne w niebieskich pończochach...
Hej, hej, hej!

Dla was diabeł, dla was raj...

Jeszcze zadrze do góry się noska,
co to będzie za dzień, Matko Boska!
Jeszcze błysną obrączki na palcach,
jeszcze ruszy podłoga do tańca...
Hej, hej, hej!

Dla was diabeł, dla was raj...

Przyjdzie dzień, gdy się słońce ocieli,
a my w górze, my w chmurze, my w bieli,
serenady zanucą nam do snu,
skarby świata znów rzucą nam do stóp.
Hej, hej, hej!

Dla nas diabeł, dla nas raj,
patataj, o patataj,
dla nas anioł, dla nas maj,
patataj, o patataj,
dla nas diabeł, dla nas raj,
patataj, o patataj,
dla nas wszystko naj, naj, naj,
patataj, o patataj,
patataj, patataj, o patataj, patataj!









### ЯК РАЗВЕСЦІСЯ

Англічанін па прозвішчу Джоджэй амаль сорак гадоў быў сямейным чалавекам. А потым прыняў рашэнне аддаць даніну модзе. Выклікаў незадавальненне жонкі сабою і яе згоду на развод вельмі проста і нават бязвінна. Кожны дзень ён пачаў амаль без перапынку свістаць і пець у кватэры розныя мелодыі.

І мясцовы суд аднагалосна прызнаў сумеснае жыццё невыносным.

### КІТ-ПУДЗІЛА

Як ні дзіўна, адным са сваіх заўзятых ворагаў японскія рыбакі лічаць дэльфінаў. Высветлілася, што яны паядаюць каракаціц, якія высока цэняцца на японскім рынку.

Варварскае знішчэнне дэльфінаў неаднаразова выклікала пратэсты міжнароднай грамадскасці. Каб адвесці абвінавачанне ад сваіх рыбакоў, пастаўленых у безвыхаднае становішча, японскае навукова-тэхнічнае ўпраўленне справе вырашыць праблему з дапамогай... пудзіла. Яго ролю павінен выконваць выраблены з пластыку ў натуральную велічыню кіт-касатка — грозны вораг дэльфінаў. Ён забяспечан нават электронай канструкцыяй, здольнай імітаваць гукі, якія можна пачуць ад сапраўднага кіта.

У адрозненне ад сваіх прымітыўных агародных „калег“ пудзіла марское — рэч даволі дарагая: яно каштуе тры мільёны іен. Калі кіт-пудзіла не напалохае дэльфінаў, вучоныя будуць працягваць свае даследаванні — на „ролю“ пудзіла паспрабуюць іншых кандыдатаў.





**Лепш быць дзевятым, ды ў роднай маці, чым першым у чужой.**